# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Чацвер, 21 ліпеня 1994 года | № 76 (10776) | Цана 200 руб.


## ...УРАЧЫСТА КЛЯНУСЯ СЛУЖЫЦЬ НАРОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Бадай, яшчэ ніколі зала пасяджэнняў Вярхоўнага Савета не была так перапоўнена. Ды і дэпутацкая яўка ніколі не была такой высокай: 318 народных выбраннікаў зарэгістравалася пры адкрыцці спецыяльнай сесіі парламента, прысвечанай прыняццю прысягі першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. У зале і на балконе — многія дзесяткі гасцей, дыпламатаў, журналістаў, проста запрошаных. Нават некаторым членам урада прыйшлося шукаць свабодныя месцы, паколькі прывычныя для іх рады ўжо былі заняты гасцямі. Сярод іх — віцэ-прэм"ер расійскага ўрада Аляксандр Шохін, маршал сейма Польшчы Юзаф Алексы, Старшыня сейма Літвы Чэславас Юршэнас, віцэ-прэм"ер урада Грузіі Іраклій Менагарышвілі, віцэ-прэм"ер Малдовы Валерыу Булгар.

10 гадзін раніцы. У залу пасяджэнняў уваходзяць і займаюць месцы ў прэзідыуме Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб і яго намеснікі. Кароткім уступным словам сесію адкрыў кіраўнік парламента. Ён падкрэсліў, што грамадзяне Беларусі знаходзяцца пад уражаннем нядаўна праведзеных выбараў першага Прэзідэнта дзяржавы, якія можна назваць дэмакратычнымі ў поўным сэнсе слова. Гэтаму ў немалой ступені садзейнічала работа Вярхоўнага Савета, што прыняў новую Канстытуцыю, згодна з якой рэспубліка стала прэзідэнцкай.

Вярхоўны Савет паслядоўна праводзіць курс на дэмакратызацыю грамадства, свабоднае волевыяўленне грамадзян, сказаў М.Грыб. "Вынікі выбараў красамоўна сведчаць аб усенароднай падтрымцы Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, за якога прагаласавала больш за 80 працэнтаў тых, хто прыйшоў на выбарчыя ўчасткі". Старшыня парламента павіншаваў Аляксандра Лукашэнку з выбраннем на пасаду Прэзідэнта, выказаў словы ўдзячнасці ў адрас дэлегацый, якія прыбылі ў беларускую сталіцу для ўдзелу ва ўрачыстасцях.

Затым на трыбуну запрашаецца Аляксандр Лукашэнка. Паклаўшы руку на Канстытуцыю, ён гаворыць словы прэзідэнцкай прысягі: "Заступаючы на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся служыць народу Рэспублікі Беларусь, выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі". Прэзідэнт падпісвае тэкст прысягі і перадае яго Старшыні Вярхоўнага Савета. Гучыць Гімн Рэспублікі Беларусь.

Пасля прыняцця прысягі Прэзідэнт выступіў з кароткай прамовай.

"Паважаныя суграмадзяне! Паважаныя калегі — дэпутаты Вярхоўнага Савета!

У гэты ўрачысты дзень дазвольце падзякаваць за аказаны мне высокі давер. Сёння ён велізарны, і зраблю ўсё магчымае, каб не падмануць яго. Аўраам Лінкальн сказаў калісьці, што сапраўдная дэмакратыя — улада народа, з народа і для народа. Першы ўсенародна выбраны кіраўнік беларускай дзяржавы павінен пастаянна адчуваць сваю сувязь з простымі людзьмі, чыёй працай трымаецца наша зямля. Абяцаю вам, што гэта сувязь ніколі не парушыцца. Дзень 20 ліпеня 1994 года — дзень прысягі першага Прэзідэнта Беларусі павінен стаць днём заканчэння процістаяння ў грамадстве і першым крокам да ўстанаўлення грамадзянскай згоды. Выйсце з эканамічнага крызісу немагчыма без адзінай волі і сумеснай працы ўсяго беларускага народа. Вось чаму першы Прэзідэнт павінен узняцца і ўзнімецца над асабістымі палітычнымі прыхільнасцямі, будзе адкрыты самаму ўсебаковаму супрацоўніцтву з усімі палітычнымі сіламі, да канструктыўнай работы на карысць Беларусі. Прэзідэнт будзе гарантам правоў грамадзян Беларусі незалежна ад узросту, партыйнай, рэлігійнай прыналежнасці, нацыянальнасці. Адзіная дыктатура, якая магчыма ў краіне, што імкнецца як роўная ўвайсці ў сусветнае супольніцтва, гэта дыктатура закона. Перад законам, перад нашай Канстытуцыяй павінны быць роўныя ўсе — ад школьніка да Прэзідэнта. І Прэзідэнт зробіць усё, што ад яго залежыць, каб свята выконваць іх, і дадзеную мной сёння прысягу. Усенародна выбраны Прэзідэнт будзе гарантам беларускай дзяржаўнасці. Мы не збіраемся рабіць замах ні на чыю тэрыторыю, каму б у гістарычным мінулым яна ні належала. Наша задача — захоўваць сённяшні наш набытак, берагаць цэласнасць Беларусі.

Мы будзем свята выконваць усе прынятыя на сябе Беларуссю міжнародныя абавязацельствы, заключаныя намі дагаворы. Галоўнае багацце Беларусі — наш народ. Важнейшая задача ўсіх прадстаўнікоў улады, у тым ліку і Прэзідэнта, забяспечыць яму дастойнае жыццё. Пакінем у мінулым палітычныя амбіцыі і канфрантацыю, таму што ў нас ва ўсіх — такіх розных — адна зямля, адна Радзіма. Ёсць для чаго і для каго жыць і працаваць. І дай Бог, каб ужо праз год пасля прыняцця прысягі першым беларускім Прэзідэнтам народу стала хоць трошкі лягчэй. Гэта будзе азначаць, што мы працавалі не дарэмна.

Дзякуй, паважаныя сябры, за давер.

Дзякуй за ўвагу".

Першым з замежных гасцей выступіў расійскі віцэ-прэм"ер Аляксандр Шохін, які прадстаўляе на ўрачыстасцях расійскага прэзідэнта. Ён перадаў кіраўніку беларускай дзяржавы віншаванне ад Барыса Ельцына, усіх расіян. Расія і Беларусь — не проста суседзі. Мы — браты, падкрэсліў А.Шохін. Ён заявіў, што Расія гатова да цеснага супрацоўніцтва з Беларуссю.

Маршал сейма Польшчы Юзаф Алексы, віншуючы А.Лукашэнку, адзначыў, што незалежная Польшча і незалежная Беларусь — добрыя партнёры ў Еўропе. "Мы хочам узаемадзеяння і сумеснага развіцця, што павінна спрыяць узаемнаму поспеху і росту дабрабыту народаў".

Віцэ-прэм"ер урада Грузіі Іраклій Менагарышвілі зачытаў прывітанне кіраўніка грузінскай дзяржавы Эдуарда Шэварднадзе.

Старшыня сейма Літвы Чэславас Юршэнас перадаў віншаванні і пажаданні поспехаў ад прэзідэнта Літвы Альгірдаса Бразаўскаса і літоўскага парламента, Валерыу Булгар — ад прэзідэнта Малдовы Мірчы Снегура і парламента сваёй краіны. Часовы павераны ў справах Украіны ў Беларусі зачытаў прывітанне прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы.

На сесіі выступіў таксама лідэр апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк.

Пазіцыі і падыходы Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ад імя фракцыі гэтай партыі выклаў Алег Трусаў.

Дэпутат А.Нятылькін параіў Прэзідэнту выслухаць усіх, але рашэнні прымаць самастойна.

На гэтым сесія перапыніла сваю работу да раніцы 21 ліпеня.

На працягу дня дэпутаты павінны ў пастаянных камісіях абмеркаваць прапановы Прэзідэнта па саставу будучага ўрада.

*БЕЛІНФАРМ.*

ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

■ Нарыхтоўка кармоў

## На лугах наднёманскіх

***Гэтымі ліпеньскімі днямі ля Нёмана — незвычайная прыгажосць. Паветра напоена ні з чым не параўнальным водарам разнатраўя, чуецца ціхі плёскат хваль, і над усім пануе гарачае летняе сонца...***

Але не да гэтага хараства цяпер хлебаробу. Перастойваюць на корані травы (дарма, што ў гаспадарках — поўны набор тэхнікі). З-за нястачы паліва амаль няма магчымасці ўбіраць іх. Стаяць на прыколе касілкі, магутныя кормаўборачныя комплексы...

І тым не менш на Вялікім лузе, што ў пойме Нёмана, весела стракочуць касілкі. У раўнюткія пракосы кладуцца травы. Праўда, не адчуваецца тут перагару саляркі ці бензіну. А ўсё таму, што працуюць на лузе конныя касілкі. Кіруюць імі Іван Фільчук, Анатоль Лукашэвіч, Іосіф Мірон. Кожны за дзень скошвае па тры і болей гектары траў. Вядома, іх работу не параўнаць с выпрацоўкай комплексаў КСК-100 ці "Палессе", але на бязрыб"і і рак — рыба.

У выніку ў калгасе "Нёман" Уздзенскага раёна менавіта за кошт гэтага блізіцца да завяршэння ўборка траў першага ўкосу. І з назапашваннем сена, іншых травяністых кармоў справы абстаяць нядрэнна. А ўсё таму, што мясцовыя гаспадарнікі не забыліся пра цяглавую сілу, якой спрадвеку карысталіся ў вёсцы, паклапаціліся своечасова пра нарошчванне конепагалоўя. І яно выручае.

У размове са старшынёй калгаса Сцяпанам Лесуном высветлілася, што мясцовыя корманарыхтоўшчыкі ўжо ўбралі звыш 700 гектараў сеяных і натуральных траў з амаль 1000-гектарнай плошчы, якая адведзена пад першы ўкос. Нёманцы ўжо маюць больш як 340 тон сена, 2 тысячы тон сенажу, што ў пераразліку на ўмоўную галаву буйной рагатай жывёлы складае каля 4 цэнтнераў кармавых адзінак. Праўда, летась на гэты час кармоў было больш. Але ж аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прадпасылкі для гэтага тады былі куды выгаднейшыя.

— Імкнёмся ні на адзін дзень не прыпыняць скошванне траў і нарыхтоўку ўсіх відаў фуражу, — гаворыць старшыня гаспадаркі С.Лясун. — Адшукваем фінансавыя сродкі для набыцця дызпаліва, бензіну, каб забяспечыць работу кормаздабываючай тэхнікі.

Вядома, было б наіўным спадзявацца, што ўсю корманарыхтоўку можна правесці на конях. Галоўнае ў тым, што людзі добра валодаюць абстаноўкай, ведаюць, што калі зробіш, то і заробіш. Таму і шчыруюць на сенажаці Іосіф Дзесюкевіч, Уладзімір Сегель, Леанід Ус, Аляксандр Туміловіч, Уладзімір Бондар і іншыя механізатары і вадзіцелі. Толькі калі чырвоны дыск ліпеньскага сонца поўнасцю схаваецца ў прахалоду Нёмана, пакідаюць яны пад ахову кароткай летняй ночы свае агрэгаты. Раніцой жа — зноў за працу!

*Аляксандр ПІНДРАС.*
*Уздзенскі раён.*

Капыльскі райаграпрамснаб з'яўляецца надзейным партнёрам хлебаробаў. Калектыў яго дапамагае вяскоўцам у наладжванні стабільнай работы машынна-трактарнага парка, фермерскага абсталявання. Тут ёсць неблагі па цяперашнім часе выбар вузлоў і дэталей да тэхнікі, запчастак, агрэгатаў. У складах і на тэрыторыі базы заўсёды ўзорны парадак, тут хутка і якасна абслугоўваюць заказчыкаў. Ёсць і свой магазін.

**На здымках:** кладаўшчык Валянціна **СІДАРЭНЯ;** адгрузка аўтазапчастак прадстаўнікам калгаса «Семежава»; загадчыца фірменнага магазіна Наталля **АКУЛА** абслугоўвае пакупніка.

*Фота Анатоля БАСАВА.*





## ІНФАРМАЦЫЯ

### аблсельгасхарча аб ходзе нарыхтоўкі кармоў у гаспадарках вобласці на 19 ліпеня г.г.

*Графы: 1 — раёны, 2 — убрана траў першым укосам /у прац./, 3 — нарыхтавана кармавых адзінак на ўмоўную галаву жывёлы /цэнт./.*

| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| Слуцкі | 100 | 7,1 | Стаўбцоўскі | 94 | 6,3 |
| Пухавіцкі | 100 | 6,7 | Уздзенскі | 92 | 5,0 |
| Капыльскі | 100 | 6,6 | Смалявіцкі | 89 | 8,3 |
| Нясвіжскі | 100 | 6,0 | Лагойскі | 89 | 5,2 |
| Мінскі | 100 | 5,9 | Валожынскі | 88 | 5,0 |
| Старадарожскі | 100 | 5,9 | Вілейскі | 87 | 7,3 |
| Дзяржынскі | 100 | 5,2 | Барысаўскі | 87 | 5,1 |
| Клецкі | 100 | 5,1 | Крупскі | 83 | 5,0 |
| Чэрвеньскі | 99 | 7,1 | Салігорскі | 81 | 5,0 |
| Любанскі | 99 | 7,0 | Мядзельскі | 79 | 5,1 |
| Маладзечанскі | 99 | 6,0 | Бярэзінскі | 79 | 4,1 |
| | | | Па вобласці: | 93 | 6,0 |

*Дарэчы: летась на гэту дату па вобласці было нарыхтавана 5,8 цэнтнера кармавых адзінак.*

## ШКЛАТАРА Ў ЦАНЕ

З учарашняга дня ў сярэднім у тры разы павышана цана на шклатару.

Самы дарагі цяпер трохлітровы слоік — 3400 рублёў. Двухлітровы слоік каштуе 2000 рублёў, літровы — 1300, паўлітровы — 1000 рублёў. Купляючы малако ці кефір, трэба дабаўляць да прадукту 700 рублёў за бутэльку. Такі ж кошт устаноўлены на слоікі з пад маянэзу і смятаны, а таксама на бутэлькі ёмістасцю 0,33 літра.

Узрасла цана і на шклатару, у якую разліваецца гарэлка, піва і мінеральная вада. Паўлітровая гарэлачная бутэлька ацэнена ў 1400 рублёў, з-пад піва — 1000, а "семсотграмоўка" пацягнула на 1800 рублёў.

*/Наш кар./.*

## Мэбля ад «ММЦ»

Вось ужо больш года каля вёскі Будагова Смалявіцкага раёна дзейнічае замежнае прадпрыемства "ММЦ". Гэта філіял аднайменнай нямецкай фірмы, на якім штомесяц вырабляецца каля тысячы камплектаў дыхтоўнай мяккай мэблі.

Дырэктар прадпрыемства Юрый Воранаў адзначыў, што прадукцыю "ММЦ" ахвотна набываюць у Беларусі, на Украіне, у Расіі, Казахстане, Туркменіі і Узбекістане. Мэбля прыйшлася даспадобы і спажыўцам далёкага замежжа: Галандыі, Германіі, Швейцарыі.

— З фірмай мы працуем на партнёрскіх асновах і знаходзімся на самафінансаванні, — тлумачыць кіраўнік прадпрыемства. — Вырабляць прадукцыю пачалі з мая мінулага года. А да гэтага каля года сваімі рукамі пераабсталёўвалі і даводзілі да ладу недабудаваныя памяшканні, што прызначаліся для жывёлагадоўчага комплексу доследна-вытворчай гаспадаркі "Будагова". На плошчы каля шасці тысяч квадратных метраў размясціліся ўчасткі па дрэваапрацоўцы, швейнай вытворчасці і зборкі мэблі. У перспектыве мяркуем пашырыць вытворчыя плошчы.

— З набыццём матэрыялаў і фурнітуры няма ніякіх праблем, — зазначае Юрый Васільевіч. — Рынак збыту мы фарміруем самі. Адшукваем буйнаоптавых кліентаў-пакупнікоў. Рыхтуем зараз заказ на Туркменію і Узбекістан. Што тычыцца росту цэн на электраэнергію, то гэта нас не вельмі турбуе, паколькі энергаёмістасць нашай вытворчасці невялікая. За гадзіну мы расходуем усяго толькі 80 кілават электраэнергіі, большасць абсталявання працуе ад паветра.

*Мікалай ЧАПЕЙ.*

## Заснавальнік газеты — сабор

У Слуцку выйшаў у свет першы нумар новай праваслаўнай духоўна-асветніцкай газеты "Преображение". Яе тыраж — 2.000 экземпляраў. Матэрыялы друкуюцца на рускай і беларускай мовах.

Заснавальнік газеты — Свята-Міхайлаўскі сабор. У звароце да чытачоў яго протаіерэй айцец Міхаіл падкрэслівае накіраванасць выдання : пераўтварэнне чалавечых адносін.

У нумары змяшчаюцца публікацыі, прысвечаныя гісторыі хрысціянскага вучэння, жыццю праваслаўнай абшчыны пры Свята-Міхайлаўскім саборы. Знойдуць чытачы ў ім і вершы вядомых паэтаў Л.Андрэева, М.Пляшчэева, М.Салаўёва. Прыцягвае ўвагу рэпартаж з выпускнога вечара ў нядзельнай школе пры саборы. Яе паспяхова закончылі звыш трыццаці хлопчыкаў і дзяўчынак. А таксама — нарыс айца Міхаіла аб святой княгіне Соф"і Слуцкай, чые мошчы цяпер знаходзяцца ў мінскім Кафедральным саборы, артыкул аб будаўніцтве ў цэнтры горада сабornага комплексу. У яго ўвойдуць Спаса-Прэабражэнскі сабор на 1.500 прыхаджан, Дом міласэрнасці, памяшканні пад нядзельную школу і гімназію, бібліятэку з чытальнай залай.

*Міхась ТЫЧЫНА.*
*г. Слуцк.*

## "ПАРТЫЗАНЫ" НА ДАРОГАХ

Аказваецца, не толькі работнікі ДАІ могуць спыняць транспарт на аўтамагістралях. Апошнім часам гэтую функцыю бяруць на сябе, калі можна так сказаць, "партызаны". Праўда, мэты ў іх ніякім чынам не звязаны з арганізацыяй бяспекі руху на дарогах. У гэтым нядаўна пераканаўся грамадзянін Германіі Д., які на вялікагрузнай машыне кіраваў у Мінск. За некалькі дзесяткаў кіламетраў да беларускай сталіцы дарогу яму нечакана перагарадзіў ЗІЛ. Дужыя малойцы, пагражаючы зброяй, загадалі выйсці з кабіны. Без лішніх слоў "канфіскавалі" у разгубленага Д. грошы, дэфіцытныя рэчы і зніклі.

*/Наш кар./.*

## У «Электронікі» свая лямпачка

Цікавую навінку распрацавалі на мінскім заводзе "Электроніка". Пад складанай назвай "Пускарэгулюючая апаратура" (ПРА) хаваецца маленькая прыгожая скрыначка, прымацаваная на звычайным лямпачным цокалі. З процілеглага боку — дзве шкляныя трубкі. Уся канструкцыя нагадвае лямпу дзённага святла, якая амаль не перавышае па аб'ёму звычайную, сярэдняга памеру лямпу напальвання. Цокаль мае стандартны памер. Так што навінку можна будзе выкарыстоўваць у любых свяцільнях з традыцыйнымі патронамі. Эканомія электраэнергіі пры выкарыстанні ПРА ў 5 разоў перавышае расход электрычнасці пры рабоце лямп напальвання. Працягласць жа эксплуатацыі роўная дзесяці тэрмінам службы звычайных лямпаў.

Навінка прайшла выпрабаванні і дэманстравалася расійскім і замежным спажыўцам. Праз месяц плануецца запусціць серыйную вытворчасць энергазберагальнай навінкі.

*БЕЛІНФАРМ.*



## Акно ДАІ

### "МОЦНЫ" СОН

Што і казаць, любіць паспаць трактарыст Валерый Чахновіч з вёскі Нарач Мядзельскага раёна. Нават у кабіне замацаванага за ім трактара. Менавіта такое здарылася 9 ліпеня гэтага года ў 9 гадзін раніцы, калі Чахновіч ехаў з вёскі Лешчынск у вёску Нарач, перавозячы ў кабіне пасажыра Валерыя Стасюка. У выніку трактар з"ехаў у кювет і перакуліўся. Пасажыр атрымаў цялесныя пашкоджанні.

### ВЫПІЎ ЧАРКУ, ВЫПІЎ ДЗВЕ...

Так-так, прыняўшы спіртное, Мікалай Яічкін, жыхар вёскі Бярозаўка Крупскага раёна, у гадзіну ночы каля вёскі Галановічы выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з матацыклістам Анатолем Камаровым, які на месцы здарэння памёр.

Дарэчы, матацыкл належыць Мікалаю Яічкіну. Ён даў пакатацца на ім Анатолю Камарову.

### ЗАГАРАЙ, АЛЕ МЕРУ ВЕДАЙ

Любіць Валерый Казлоўскі, які пражывае ў Слуцкім раёне, загараць. Толькі вось не заўсёды ходзіць на ўлонне прыроды пешшу. 9 ліпеня ён узяў бацькаву аўтамашыну, каб хутчэй дабрацца да вады і прымаць потым сонечныя ванны. А калі вяртаўся дамоў, то перадаў руль кіравання аўтамашынай незнаёмаму юнаку. Як вынік, дарожна-транспартнае здарэнне. А было гэта, па словах гора-вадзіцеля, так. На паласу руху выехаў на веласіпедзе падлетак, і каб не збіць яго, ён рэзка павярнуў у левы бок, не справіўся з кіраваннем аўтамашыны, якая перавярнулася. Ехаўшыя ў ёй пасажыры атрымалі траўмы.

Аўтамашына з месца здарэння знікла.

### ЛЯТАЛЬНЫ ЗЫХОД

Намеснік генеральнага дырэктара Мінскага гадзіннікавага завода Багдан Гарасевіч, едучы на асабістай аўтамашыне па шашы Мінск—Масква, каля вёскі Азярыцкая Слабада Смалявіцкага раёна збіў Вячаслава Ліпніцкага, 1985 года нараджэння, які нечакана выбег на праезную частку дарогі. Хлопчык у час следавання ў бальніцу ад атрыманых ран памёр.

### КАЛІ НЯМА ПРАВОЎ...

Сяргей Конараў кіраваў асабістым матацыклам у стане алкагольнага ап"янення і здзейсніў наезд на стаячую аўтамашыну, у якой знаходзіўся Юрый Біянаў. Як высветлілася потым, абодва не маюць правоў на кіраванне тэхнікай. А калі яны адсутнічаюць, то не трэба садзіцца за руль. Інакш быць бядзе, як і ў даным выпадку.

**— Усяго за шэсць месяцаў 1994 года, — расказвае начальнік дзяржаўтаінспекцыі ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскай вобласці А.А.Чуднікаў, — здзейснена 471 дарожна-транспартное здарэнне. У іх загінулі 153 чалавекі, 450 — атрымалі раненні, 66 дарожных здарэнняў на "сумленні" п"яных вадзіцеляў. Калі параўнаць з адпаведным перыядам мінулага года, то па ўсіх паказчыках назіраецца зніжэнне. Але гэта не радуе нас, бо абстаноўка на дарогах трывожная.**

**Алег Аляксеевіч прывёў статыстычныя даныя дзейнасці міліцыі ў першым паўгоддзі. Затрымана 7.820 п"яных вадзіцеляў, папярэджана 274.645 выпадкаў парушэнняў правілаў дарожнага руху, выяўлена 86.439 фактаў перавышэння хуткасці руху. Да адказнасці прыцягнута 15,5 тысячы пешаходаў — на 5 тысяч больш, чым за адпаведны перыяд летась.**

**Крымінагенная абстаноўка на дарогах вобласці застаецца трывожнай і ў ліпені. Толькі за 19 дзён адбылося 88 здарэнняў. У іх загінула 17 чалавек, 97 — паранена. З сумам даводзіцца канстатаваць, што 14 здарэнняў здзейснілі п"яныя вадзіцелі.**

*Мікалай КУЗЬМЕНКА.*

## "І ВЕРШ АБ МЕСЦЕ З СЭРЦА МКНЕ"

**Яшчэ адзін куток адродзіцца для беларусаў як месца памяці Максіма Багдановіча. У вёсцы Ракуцеўшчына Маладзечанскага раёна 27 ліпеня адкрыецца дом-музей паэта. Ён стане часткай будучага музея-запаведніка ў месцах, дзе яму добра адпачывалася, думалася і пісалася. Аўтар і выканаўца музейнай экспазіцыі, у якой усе адноўлена так, як было ў далёкім 1911-м, — вядомы сваімі ўдачнымі распрацоўкамі літаратурных музеяў у Беларусі мастак Генадзь Чысты.**

— Сядзіба Ракуцеўшчына ў канцы мінулага і пачатку бягучага стагоддзя належала дробнай шляхце, — расказвае мастак. — Эмілія Лычкоўская-Шыманская атрымала яе ў спадчыну, а ў 1911 годзе, калі тут з"явіўся Багдановіч, сядзібай валодаў яе сын Вацлаў. Ён даводзіўся родным дзядзькам вядомым дзеячам Беларускага адраджэння Івану і Антону Луцкевічам. Менавіта па іх запрашэнню прыехаў паэт з Вільні. Ціхая вёска з сасновым лесам і палямі надзвычай дабратворна ўздзейнічала на здароўе хворага на сухоты Максіма. Тут ён натхніўся на многія вершы, якія ўвайшлі потым у цыклы "Старая Беларусь" і "Места", а таксама на паэмы "Вераніка" і "У вёсцы". Успаміны аб тым, як выглядала ў пачатку стагоддзя Ракуцеўшчына і ваколіцы захавала Яніна Шабуня-Каханоўская. Яны і былі запісаны з яе слоў у 1990 годзе ў Нью-Йорку. Стараннямі работнікаў літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, мясцовых улад і пры маім удзеле будзе адноўлена ўсё да самых дробязей: домік арандатара, сядзіба, гаспадарчыя пабудовы, Максімава крынічка... У склад музея-запаведніка ўвойдуць і дарога ад станцыі Уша, па якой ехаў паэт, і Пакроўская царква, і Краснасельскія каталіцкія могілкі, дзе пахаваны Лычкоўскія. Уся тэрыторыя будзе абсаджана дрэвамі і кветкамі так, як гэта было пры жыцці паэта.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Спажывецкая кааперацыя

# ДА НОВАГА СЕЗОНА



Добра падрыхтаваліся да новага сезона работнікі магазіна нарыхтовак вёскі Вішнева Валожынскага райспажыўсаюза. Тут своечасова адрамантавалі тару і абсталяванне, прывялі ў парадак сховішчы. Нарыхтоўкі пачнуцца з закупу ў насельніцтва парэчак, вішань, чарніц і іншай прадукцыі. Калектыў магазіна лічыцца адным з лепшых у сістэме райспажыўсаюза. За 6 месяцаў прыбытак склаў каля 9 мільёнаў рублёў.

**На здымках:** нарыхтоўкі ад насельніцтва прымае прадавец Валянціна **Амельяновіч;** старшыня Валожынскага спажывецкага таварыства Валянціна **Грыбоўская** (злева) гутарыць з работнікамі таварыства; падрыхтоўка тары.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ В партиях и движениях

# РАЗЪЕДИНИЛИСЬ, ЧТОБЫ ОБЪЕДИНИТЬСЯ

***Состоялся VII пленум ЦК ПКБ. На нем были рассмотрены итоги президентских выборов и задачи коммунистов на перспективу, отношение к Народному движению Беларуси, позиция ПКБ к Президенту Республики Беларусь и другие вопросы деятельности партии на данном этапе.***

Отмечалось, что, несмотря на то, что кандидат от партии коммунистов получил всего лишь 4,3 проц. голосов избирателей, состоявшиеся выборы подтвердили правильность программных целей коммунистов, предвыборная кампания стала полезным уроком, что дало возможность проверить организованность и гибкость структур в конкретном деле, удалось привлечь свежие силы и значительно расширить ряды единомышленников. Отмечались и упущения, недостатки, расхождения между громогласными лозунгами и делами, пассивность, а подчас и предательство отдельных членов партии.

Исходя из анализа всей работы в этой важной кампании, с целью наведения порядка и дисциплины намечено провести отчетно-выборные собрания, обмен партийных билетов образца 1993 г., а в ноябре-декабре провести съезд ПКБ.

На пленуме и докладчик и выступающие дали острую и принципиальную оценку деятельности руководства КК НДБ. Обстановка в этом Движении продолжает ухудшаться и доведена в настоящее время до глубокого организационного и политического кризиса. Фактически председателем КК НДБ С.Гайдукевичем и его ближайшим окружением предпринята была очередная авантюрная попытка устроить обструкцию ПКБ, являющейся по существу несущей конструкцией всего Движения. ЦК ПКБ расценивает эту попытку как свидетельство мелкого политического интриганства.

Единственной "виной" коммунистов, попавших в "немилость" Гайдукевича и К°, явилась принципиальная позиция по поддержке на президентских выборах своего кандидата, а также категорический отказ руководства ПКБ слепо, без учета реалий политической ситуации признать В.Ф.Кебича в качестве единственного кандидата в президенты от блока лево-центристских сил и неприятии провокационных призывов руководителя КК НДБ к шельмованию А.Г.Лукашенко.

Подтверждением полного политического ренегатства С.Гайдукевича и его несостоятельности в качестве "лидера" НДБ явились последние заявления КК НДБ /принятые, кстати, без участия ПКБ/: накануне второго тура голосования — об однозначной поддержке В.Кебича и полном разрыве с А.Лукашенко, а после обнародования итогов — об удовлетворении убедительной победой А.Лукашенко на них и оценке ее как политического успеха НДБ.

Курс руководящего органа НДБ, возглавляемого С.В.Гайдукевичем, становится все более авантюристическим, деконструктивным. Амбициозность, нетактичность, грубость председателя, систематическое нарушение Устава, излишняя терпимость, а порой и угодничество со стороны ряда сопредседателей КК по отношению к Гайдукевичу привели к полному банкротству руководства НДБ, расколу самого Движения, потери доверия к нему широких народных масс. Устранить эти и другие негативные явления в деятельности руководства НДБ нет возможности. Поэтому ЦК ПКБ заявил о выходе из Народного движения Беларуси и прекращении деятельности координационных комитетов на местах.

Пленум ЦК ПКБ направил телеграмму в адрес Президента республики.

*/Наш корр./.*

Радком па абзацам

## НА ВЫСТАЎКУ «МЕДЫЦЫНА-94"

Шэраг беларускіх прамысловых прадпрыемстваў, якія выпускаюць медыцынскае абсталяванне, маюць намер прыняць удзел у Міжнароднай выстаўцы "Медыцына-94", што будзе праходзіць у Мінску ў верасні. У ёй прымуць удзел вядомыя фірмы з Германіі, Францыі, Англіі, ЗША, Ізраіля і іншых краін свету, якія займаюцца прамысловым вырабам медыцынскага абсталявання. Удзельнічаць у ёй таксама збіраюцца знешнегандлёвыя арганізацыі Рэспублікі Беларусь і краіны блізкага замежжа, у тым ліку і Балтыі. Тэматыка экспазіцыі ў параўнанні з мінулым годам, калі выстаўка праходзіла ўпершыню, значна пашырана. Перад наведвальнікамі будуць выстаўлены лепшыя ўзоры медыцынскага электраабсталявання і медыцынскай механікі, лабараторнай тэхнікі, а таксама дыягнастычнае абсталяванне для ўрачэбных кабінетаў і бальнічныя тэрапеўтычныя і дапаможныя сродкі.

## ТАВАРАМ РЫНАК НАПАЎНЯЮЦЬ КІРМАШЫ

Кожны раз вынікам кірмашоў, якія арганізоўвае выставачная кампанія "Экспасэрвіс", становіцца прыкметнае папаўненне таварам рынку рэспублікі. Так здарылася і пасля адначасова праведзеных нядаўна ў Мінску міжнародных кірмашоў "Усё для дома", "Асвятляльнае абсталяванне" і "Белхімія-94". У іх прынялі ўдзел больш за 100 фірм з усяго свету. Праблема насычэння спажывецкага рынку і задавальнення попыту на тавары для дома, будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы, сантэхнічнае абсталяванне ў рэспубліцы вырашаецца з цяжкасцю. Таму і не дзіўна, што кірмашы выклікалі цікавасць і прынялі на сваіх выставачных плошчах дзесяткі тысяч мінчан і гасцей сталіцы. Удачнымі экспазіцыі сталі і для ўдзельнікаў, якія вярнуліся дамоў з багажом дагаворанасцей і кантрактаў.

## ЦЭНЫ НА ХЛЕБ ЗАХОЎВАЮЦЦА

Павышэнне цэн на гарэлку парадзіла чуткі аб тым, што ў бліжэйшы час зменяцца цэны, вядома ж, у бок павышэння, і на іншыя прадукты. Аднак, як паведаміў кіраўнік прэс-службы Міністэрства гандлю Беларусі Г.Мельнік, "Павышэнне цэн на хлеб у бліжэйшы час не намячаецца. Міністэрствам накіравана ўказанне органам кіравання гандлем усіх узроўняў аб прыняцці мер па недапушчальнасці фактаў парушэння правіл гандлю хлебам і хлебабулачнымі вырабамі, самаму строгаму захаванню ўстаноўленых норм водпуску. Даручана неадкладна прыцягваць да адказнасці вінаватых асоб у адпаведнасці з дзеючым адміністрацыйным і крымінальным заканадаўствам, знімаць парушальнікаў з займаемых пасад".

## ГАЮЧАЕ ПАВЕТРА ЛАГЕРА

Адпачылі і падлячыліся ў лагеры "Зубраня", размешчаным на беразе возера Нарач, 75 хлопчыкаў і дзяўчынак, якім былі зроблены аперацыі з прычыны анкалагічных захворванняў шчытападобнай залозы. На аздараўленчую змену запрасілі іх фонд сацыяльнай падтрымкі "Мы — дзецям" і Беларускі дзіцячы фонд. Ужо другі год у лагеры бясплатна аздараўляюць дзяцей з усіх куткоў рэспублікі, якія пакутуюць ад такіх захворванняў.

## ДЗЕЛЯ АПЕРАТЫЎНАГА КІРАЎНІЦТВА

Гарачае надвор"е спрыяе ўзнікненню пажараў. Асабліва небяспечная вогненная стыхія ў лясах і на тарфяніках. З мэтай прыняцця своечасовых і рашучых мер па прадухіленню пажараў, выканком абласнога Савета дэпутатаў утварыў спецыяльную групу па аператыўнаму кіраўніцтву і каардынацыі сіл і сродкаў у барацьбе са стыхіяй. Яе ўзначаліў намеснік старшыні аблвыканкома В.В.Майко.

У распараджэнні аблвыканкома ўказваецца на неабходнасць прывесці ў рэжым павышанай гатоўнасці штаб грамадзянскай абароны вобласці, забараніць на пажаранебяспечны перыяд уезд аўтатранспарту і распальванне вогнішчаў у лясах і на тарфяніках.

Вызначаны і іншыя меры, каб не дапусціць пажараў.

*/Наш кар./.*

■ Ну і ну

# "Пачасаў" кулакі

***Ініцыятарам бойкі выступіў дэпутат мясцовага Савета, кавалер двух ордэнаў Працоўнай Славы. І застаўся без пакарання.***

***Закон, што дышаль... Прымаўка гэта нарадзілася, відаць, у нас, бо тут здаўна існавала "глеба", што яе ўзгадавала. Але звернемся да фактаў. Толькі з іх дапамогай можна праілюстраваць магчымасць існавання ў рэспубліцы злачыннасці, якая не толькі не караецца, але і ахоўваецца законам.***

Ноч 29 жніўня мінулага года. У клубе вёскі Маркава, што на Маладзечаншчыне, — вяселле. Як прынята ў сельскай мясцовасці, гуляюць усе: і запрошаныя, і моладзь, якой проста патанцаваць хочацца пад добрую музыку. А другой гадзіне ночы госці разышліся. А ля дзвярэй клуба спынілася легкавушка. Гэта жыхар Маладзечна Мальцаў, вадзіцель малога прадпрыемства, прыехаў за сваёй музычнай апаратурай. У машыне сядзела і яго знаёмая: касір камерцыйнага банка Аксана. Маладыя людзі не былі настроены на інцыдэнт. І таму, калі хлопца выцягнулі з машыны і сталі збіваць чацвёра здаровых мужыкоў, абое разгубіліся. Пасля хвіліннай разгубленасці Аксана паспрабавала ўмяшацца. І дужыя мужчынскія кулакі без ценю сумнення прайшліся па далікатных дзявочых плячах... У гэтай выхадцы, што была кваліфікавана нарсудом як злоснае хуліганства, ёсць адзін цікавы нюанс. Ініцыятарам бойкі выступіў дэпутат мясцовага Савета Міхаіл Стрыга. Шафёр калгаса "Маркава", жанаты, "выключна прыстойны" чалавек.

Аб апошнім можна зрабіць вывад, пазнаёміўшыся з характарыстыкай народнага выбранніка. Колькі ж адмоўных эмоцый трэба было мець, каб, забыўшыся на дэпутацкі статус, кінуцца з кулакамі на староннягa чалавека! А можа, Міхаіл якраз і памятаў Закон аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета, прыняты дзевятай сесіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання. Асабліва яго артыкул 10, што датычыць абароны правоў, гонару і годнасці народнага дэпутата. Цытую: "...народны дэпутат мясцовага Савета карыстаецца дэпутацкай недатыкальнасцю.

Недатыкальнасць народнага дэпутата мясцовага Савета заключаецца ў прадастаўленні дзяржавай асобых гарантый абароны асобы дэпутата ад крымінальнага, адміністрацыйнага або дысцыплінарнага праследавання пры ажыццяўленні ім дэпутацкіх паўнамоцтваў".

Магчыма, "наводзячы парадак" на сваёй тэрыторыі з дапамогай кулакоў, Стрыга лічыў, што такім чынам ён ажыццяўляе свае дэпутацкія паўнамоцтвы... Калі ж адкінуць усялякую іронію, то як тады растлумачыць рашэнне Маркаўскага сельскага Савета ад 23 снежня мінулага года. У адказ на просьбу праваахоўных органаў аб згодзе на прыцягненне да крымінальнай адказнасці Стрыгі, дэпутаты выказаліся дзіўным чынам: не даць згоды. Вось так. І без усялякай матывацыі.

Безумоўна, пракуратура, якая ажыццяўляе нагляд за захаваннем законнасці, не магла пагадзіцца з тым, што саўдзельнік злачынства не паўстаў перад судом. Па яе прапанове прэзідыум райсавета разгледзеў пытанне. Яно было вынесена на абмеркаванне сесіі раённага Савета. Дэпутаты галасавалі двойчы. Але рашэнне так і не прынялі. Адпрацаваная сістэма абароны? Ні ў якім выпадку не бяруся гэта сцвярджаць. Але на падобныя думкі наводзіць адсутнасць у Савета пазіцыі справядлівасці, на якую выбаршчыкі, напэўна, спадзяваліся, апускаючы бюлетэні. Не думаю, што дэпутатаў райсавета пераканала ў невіноўнасці Стрыгі хадайніцтва мясцовага Савета, наяўнасць двух ордэнаў Працоўнай Славы і іншых сведчанняў яго заслуг перад землякамі. Адно не тычыцца другога. І ў сапраўды дэмакратычнай краіне нават прэзідэнт мае са сваімі выбаршчыкамі аднолькавыя грамадзянскія правы. Так, закон абавязаны забяспечыць дэпутацкую недатыкальнасць у тым выпадку, калі гэты дэпутат абараняе інтарэсы выбаршчыка. Але, калі яму захацелася кулакі "пачасаць"... Чаму б без усялякіх просьб і хадайніцтваў аб згодзе не даць магчымасць праваахоўным органам да канца разабрацца ў сітуацыі, а суду — выканаць свае паўнамоцтвы. Толькі ён мае права паставіць у справе апошнюю кропку, толькі яму дадзена права караць і міламаць.

Магчыма, мае разважанні некаму пададуцца дылетанцкімі. Безумоўна, я вяду размову на ўзроўні радавога грамадзяніна рэспублікі, можа, крышку больш яго дасведчанага ў сітуацыі. Я стаўлю сябе на месца тых трох удзельнікаў бойкі, якія па прыгавору суда ўжо адбываюць пакаранне. І гэтага чацвёртага, што па міласці калег па грамадскай рабоце выведзены з-пад крымінальнай адказнасці. А яшчэ... тых дэпутатаў, што галасавалі супраць рашэння праваахоўных органаў. Што імі кіравала? Уяўнае пачуццё салідарнасці? Імкненне не выносіць смецце з хаты? А можа, хтосьці не выключае для сябе магчымасці апынуцца ў падобнай сітуацыі? Вось да якіх сумненняў у чалавечай прыстойнасці прыводзіць недасканаласць закона.

Не дае ён адказу і на такое пытанне: калі тэрмін дэпутацкіх паўнамоцтваў закончаны, і былы дэпутат становіцца звычайным радавым грамадзянінам, можа ён тады быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за раней здзейсненае злачынства?

Безумоўна, дэпутаты не ў масавым парадку становяцца ўдзельнікамі ці арганізатарамі злачынстваў. Падобныя выпадкі хутчэй выключэнне. Але нават у практыцы работы Маладзечанскага раённага Савета аналагічная сітуацыя не так даўно мела месца. Аб ёй таксама пісала наша газета.

Ніколі не трэба ставіць людзей у пазіцыю супрацьстаяння. Злачынца, які панёс пакаранне, і злачынца, што пазбегнуў яго, — хіба гэта не супрацьстаячыя бакі. Яму можна, а мне нельга — ці не ўзнікае лагічнае пытанне-пратэст і ці не стымулюе яно часам новыя, яшчэ больш злосныя праявы неўтаймаванага інстынкту?

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

■ Канфліктная сітуацыя

# Развіццё капіталізму ў Салігорску, або Чаму "ўзарваўся" "бункер"?

***Салігорская швейная фабрыка пасля таго, як яе выкупіў працоўны калектыў, стала называцца народным прадпрыемствам "Калінка". А яшчэ яе прazвалі "бункерам". Туды без асабістага дазволу дырэктара не дапускалі нават работнікаў праваахоўных органаў: наша прадпрыемства, што хочам, тое і робім... З "Калінкі" ніякіх скаргаў не паступала, работнікі міліцыі не зафіксавалі ў ёй ні аднаго крадзяжу ці нейкага іншага правапарушэння. Але чуткі, якія даносіліся з "бункера", сведчылі: у ім наспявае канфлікт.***

## НАРАВІСТАЯ "КРОХА"

І ён грымнуў. Пасля таго, як дырэктар "Калінкі" В.Я.Кавалевіч вярнуўся з замежнай камандзіроўкі, яму далажылі, што 25 работнікаў акцыянернага таварыства "Кроха", якое дзейнічала пры швейнай фабрыцы, уступілі ў Незалежны прафсаюз. І ў бліжэйшыя дні Васіль Якаўлевіч напісаў загад аб прымусовай адпраўцы ўсіх работнікаў "Крохі" ў водпуск без аплаты з наступнай ліквідацыяй акцыянернага таварыства.

Тут жа сярод швейнікаў, ва ўсім горадзе з"явіліся лістоўкі. У іх кіраўніцтва Незалежнага прафсаюза паведамляла, што "выпускнік партыйнай школы пан Кавалевіч" самаўпраўнічае, здзекуецца з жанчын. А таму работніцам "Калінкі" раніцай такогасьці дня трэба не садзіцца за швейныя машыны, а сабрацца каля ўваходу на фабрыку, выказаць свой пратэст.

У вызначаны час невялікая плошча каля швейнай фабрыкі бурліла. Да швачак далучыліся групы шахцёраў, аўтамабілістаў. На сцяне віселі патрабаванні работнікаў "Крохі": неадкладна дапусціць іх на рабочыя месцы, адмяніць загад аб ліквідацыі таварыства, звольніць кіраўніцтва як "Крохі", так і "Калінкі". Тут жа плакаты:"Чырвонага дырэктара Кавалевіча — да крымінальнай адказнасці!", "Не — канцлагеру ў цэнтры шахцёрскага горада!" і іншыя. Кіраўніцтва акцыяй пратэсту адразу ўзялі ў свае рукі актывісты рэгіянальнага камітэта Незалежнага прафсаюза.

— Уступленне ў прафсаюз работнікаў "Крохі" і яе ліквідацыя — простае супадзенне! — апраўдваўся В.Я.Кавалевіч. — Скараціць таварыства мы збіраліся яшчэ тры месяцы назад з-за адсутнасці сыравіны, заказаў. Заработкі нізкія? Дык не стойце на плошчы, а ідзіце працаваць...

Крыкі, свісты не далі яму закончыць. Выступалі кіраўнікі Незалежнага прафсаюза, аб сваіх бедах гаварылі швейнікі. Даволі часта падкрэслівалася, што выратаванне толькі ў рабочай салідарнасці.

Тут жа раздаваліся бланкі заяў для ўступлення ў Незалежны прафсаюз. За нейкія дзве-тры гадзіны іх запоўнілі каля трохсот чалавек. Адміністрацыі выстаўлены патрабаванні: вызваліць ад пасады Кавалевіча, павысіць зарплату, адмяніць штрафы, знізіць нормы выпрацоўкі, перадаць фізкультурна-аздараўленчы комплекс, загарадную базу адпачынку ў распараджэнне калектыву... Патрабаванне ўбраць са сталовай наглядальніка было сустрэта дружнымі апладысментамі.

## НАВОШТА ШВАЧЦЫ НАГЛЯДАЛЬНІК?

Упэўнены: адбылася б гісторыя з "Крохай" гады два назад, калі калектыў толькі выкупіў фабрыку і стаў распараджацца сваёй прадукцыяй, швачкі не выйшлі б на плошчу. Бо жылі яны тады на галаву лепш, чым работнікі іншых падобных прадпрыемстваў. З-за дэфіцыту тавараў попыт на іх паліто, курткі быў страшэнны, іх раскуплялі прама са склада. Кавалевіч асабіста распараджаўся, каму колькі вырабаў прадаць. Іх швейнікі абменьвалі на больш танныя прадукты, што ў спалучэнні з высокімі заработкамі давала падставы лічыць дырэктара "Калінкі" амаль што родным бацькам. Бо ён прыадчыніў для жанчын вароты такога жаданага капіталістычнага раю.

Але, як вядома, заходнія дзяржавы да свайго росквіту прыйшлі праз высокую прадукцыйнасць працы, якая нярэдка дасягалася з дапамогай жорсткай сістэмы штрафаў. Гэты працэс ішоў многія гады. Кавалевіч вырашыў зрабіць скачок з сацыялізму у капіталізм. Не выканала жанчына норму — штраф. Паспяшалася, дапусціла брак, — зноў гані грошы. Не ў тую руку ўзяла відэлец і гэта заўважыў наглядальнік у сталовай — аддай частку зарплаты. Не так глянуў на начальства — тое ж самае. Некаторыя швачкі аддавалі на штрафы да паловы свайго заработку...

Гэтак жа хутка Кавалевіч адчуў сябе паўнаправўным гаспадаром. І не толькі фабрыкі. Спадабалася яму месца ў зялёнай зоне на беразе вадасховішча — пайшоў у гарвыканком, вышэйшыя інстанцыі: нашым рабочым патрэбна будавацца, у выглядзе выключэння дазвольце... Спіс патэнцыяльных будаўнікоў паказваў. Праўдамі і няпраўдамі дабіўся свайго. Пасля чаго рабочыя "Калінкі" раптам дружна "адмовіліся" ад сваіх участкаў на карысць блізкіх да Кавалевіча людзей: кіраўнікоў шахтабудаўнічага трэста, мясцовага калгаса, камерсантаў. Пашумелі газеты, людзі, а надзелы засталіся, на іх цэлыя гмахі выраслі.

Зноў-такі "для народа" пачаў узводзіць Васіль Якаўлевіч фізкультурна-аздараўленчы комплекс, з дапамогай вялікіх сувязей умудрыўся нават адхапіць 35 мільёнаў горкіх чарнобыльскіх рублёў / у цэнах двухгадовай даўнасці/. І вось на мітынгу адзін з вядучых звяртаецца да швачак:

— Два разы на тыдзень грэецца сауна ў нашым аздараўленчым комплексе... Падыміце рукі, хто хоць раз быў у ёй?

Ні адной рукі. Каментарыі, як кажуць, не патрэбныя. Успомнілі на плошчы, што і загарадная база адпачынку, на ўтрыманне якой ідуць кругленькія сумы, у першую чаргу выкарыстоўваецца ў інтарэсах бліжэйшага акружэння дырэктара. Што і катэджы для сябе, сваякоў ён узводзіць вельмі хутка, а будаўніцтва жылля для швачак зведзена да мінімуму. А тут яшчэ перабоі з сыравінай, заказамі, адчувальнае змяшчэнне зарплаты, фактычны разгон "Крохі". І жанчыны выйшлі на плошчу, заявілі:"Хопіць! Нам такі капіталістычны рай не патрэбен!"

## НЕ ЖАРТАВАЦЬ З АГНЁМ!

Тон у жаночым бунце задавалі мужчыны з Незалежнага прафсаюза. Яны вялі мітынг, рыхтавалі дакументы. Яны накалялі ці астуджвалі калектыўныя страсці. Прадстаўнікі шахцёраў, аўтамабілістаў для швачак, што сабраліся на плошчы, былі сваімі, блізкімі, а адміністрацыя роднай фабрыкі — амаль што ворагам. І калі на прахадной кантралёры паспрабавалі не прапусціць на тэрыторыю фабрыкі, да дырэктара, актывістаў Незалежнага прафсаюза, натоўп адразу рушыў ім на выручку. Добра, што тут жа аб"явілі: "Усё нармальна, прапусцілі!"

А праз некаторы час з фабрыкі выйшаў кіраўнік гарадской арганізацыі прафсаюза Л.А.Мархотка, паведаміў:

— Кавалевіч мне сказаў:"Выйдзі з кабінета, інакш я пушчу табе кулю ў лоб!"

Не цяжка ўявіць, якую рэакцыю выклікала гэтая навіна. Патрабавалася неадкладна зрабіць вобыск у дырэктара, канфіскаваць пісталет, каб не збег, паставіць варту каля дзвярэй. Яшчэ крышку — жанчыны гатовы былі дзейнічаць, нібы матросы з браненосца "Пацёмкін"... Нарэшце Л.А.Мархотка са сведкамі пайшлі да пракурора, каб узбудзіць супраць Кавалевіча крымінальную справу.

Зразумела, што нават у парыве вялікага гневу сапраўдны кіраўнік павінен заставацца стрыманым, тактоўным. Кідаць падобныя пагрозы можа толькі празмерна самаўпэўнены феадал, які не можа бачыць яшчэ кагосьці ў сваіх уладаннях... Але навошта было аб гэтым інцыдэнце аб"яўляць на плошчы? Каб яшчэ больш падагрэць страсці, настроіць людзей супраць адміністрацыі? Салігорцы памятаюць, як празмерна ўзбуджаны натоўп ішоў на штурм міліцыі...

У той жа час у Доме Саветаў рашалася пытанне — як уціхамірыць жаночы бунт? Чуліся галасы: патрэбна праявіць рашучасць! Былі нават прапановы — выклікаць вадамёты. Добра, што перамаглі цвярозыя галасы, якія настойвалі на цярплівых перагаворах. Праўда, не абышлося і без крыміналу. Л.А.Мархотку адвялі ў суд, аштрафавалі на больш чым сімвалічную суму — 300 рублёў за арганізацыю несанкцыяніраванага мітынгу. Пакуль афармляўся пратакол, на плошчы чуліся галасы ісці вызваляць Леаніда Андрэевіча. І калі ён з"явіўся, людзі сустрэлі яго апладысментамі. Нібы героя, пакутніка за іх інтарэсы. І стварэнню гэтага іміджу садзейнічалі работнікі праваахоўных органаў сваімі, мне здаецца, празмерна аператыўнымі дзеяннямі.

## ЭПІЛОГ

***Кіраўніцтва "Калінкі" змагло ўсё ж "адарваць" швачак ад актывістаў Незалежнага прафсаюза, правесці тайнае галасаванне. Зусім невялікай перавагай галасоў Кавалевіч усё ж атрымаў вотум даверу. У той жа час адменена сістэма штрафаў, устаранёны наглядальнік са сталовай, на 40 працэнтаў павялічаны заработкі швачак, адменена плата за карыстанне фізкультурна-аздараўленчым комплексам, будзе вырашаны лёс базы адпачынку... Работнікам "Крохі" прадастаўлена права працаваць у сістэме "Калінкі", ці на тых жа магутнасцях стварыць сваё малое прадпрыемства.***

***На фабрыцы, здаецца, устанавілася раўнавага сіл. Надоўга? Гэта залежыць выключна ад разважлівасці, вытрымкі абодвух бакоў. Ад іх пачуцця адказнасці за будучыню свайго прадпрыемства.***

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*
*г. Салігорск.*

**Сёлета Мінскаму абласному краязнаўчаму музею спаўняецца 35 год. За гэты час у яго фонды паступіла 70 тысяч экспанатаў, у тым ліку каля 40 тысяч — арыгінальных помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры Міншчыны. Тут захоўваецца шмат унікальных экспанатаў, напрыклад, залатое скроневае колца (Стара-Барысаў, XII ст.), знакаміты слуцкі золатам тканы пояс XVIII ст., 13 скарбаў манет, самы ранні з іх — арабскія дырхемы IX–X ст.ст.; адкрыты ліст на археалагічныя раскопкі, выдадзены першым на Беларусі З.Даленга-Хадакоўскаму ў 1918 годзе; дакументы за подпісамі вядомых беларускіх грамадска-палітычных дзеячаў (В.Ластоўскага, А.Уласава, Б.Тарашкевіча, А.Лукцевіча) і інш. Прапануем увазе чытачоў дзве замалёўкі супрацоўнікаў гэтага музея.**

■ Спадчына

# На варце памяці

## Партызанскія медалі

Сярод нашых калекцый самая вялікая — нумізматычная. Яна налічвае больш за 10 тысяч адзінак. У яе ўваходзяць і ўзнагароды, якімі адзначаліся подзвігі народных мсціўцаў у тыле ворага. У 1943 годзе Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР быў заснаваны медаль "Партызану Айчыннай вайны" І і ІІ ступені. Ім узнагароджвалі партызан, якія найбольш вызначыліся. Усяго за гады вайны гэтымі медалямі адзначана больш за 127 тысяч чалавек.

Але былі ў лясных салдат і не зусім звычайныя ўзнагароды. У 1944 годзе браты-кавалі Валасевічы з вёскі Канстанцінава, што на Мядзельшчыне, самі выраблі медалі для ўзнагароджвання мужных барацьбітоў. Такі заказ ім паступіў ад партызанскай брыгады імя К.К.Ракасоўскага. Справа ў тым, што спаўнялася 2 гады з таго часу, як гэтае фарміраванне пачало свой баявы шлях у тыле ворага. Тады і вырашылі ўвекавечыць юбілей выпускам спецыяльных медалёў. Цяжка было зрабіць гэта ў лесе, калі адсутнічаюць спецыяльныя прылады. І ўсё ж выхад знайшлі. Браты Аляксандр і Фёдар выкавалі са сталі патрэбныя літары, знайшлі неабходны інструмент. А дзе ўзяць загатоўкі для медалёў? У жыхароў бліжэйшых вёсак папрасілі польскія дзесяцізлотавыя сярэбраныя манеты, адпаліравалі іх, зрабілі неабходныя надпісы. Дарэчы, медалі былі двух тыпаў. На краях меўся аднолькавы надпіс "Партызанская брыгада імя Ракасоўскага" і зорка ўнізе, а ў цэнтры на адных было выбіта "За храбрасць", а на другіх — "За заслугі". Усяго было выраблена 50 такіх медалёў. Цяпер яны ўяўляюць сабой вялікую каштоўнасць як помнікі тых незабыўных і гераічных часоў.

У фондах нашага музея захоўваецца адзін з такіх медалёў — "За заслугі". Ён паступіў да нас больш за дваццаць гадоў таму назад. Але, на вялікі жаль, мы не ведаем, хто быў адзначаны гэтай узнагародай. У новым памяшканні музея гэты рэдкі экспанат зойме сваё дастойнае месца. Цікава, хто яшчэ з партызан брыгады імя Ракасоўскага атрымаў такія медалі. Адгукніцеся!

*Сяргей СТАРЫКЕВІЧ,*
*загадчык навукова–метадычнага аддзела.*

## З прыватнай калекцыі

У музеі сабрана вялікая і каштоўная калекцыя кніг. Яны траплялі да нас з букіністычных магазінаў, бібліятэк. Большая частка паступіла ад прыватных асоб. Ганарымся выданнямі, якія атрыманы ад Уладзіслава Іванавіча Чарняўскага, жыхара вёскі Вішнева Валожынскага раёна. Ён — ксёндз у мясцовым касцёле. Жыццё гэтага чалавека асветлена вялікай патрыятычнай любоўю да Бацькаўшчыны. Нядаўна Уладзіслаў Іванавіч па нашай просьбе даслаў у музей свае ўспаміны. Яны настолькі цікавыя, што мы вырашылі расказаць пра гэтага чалавека больш падрабязна.

Нарадзіўся У.І.Чарняўскі ў беднай сялянскай сям'і каля Гальшан у час 1-й сусветнай вайны. Сям'я была вялікая — 14 асоб. Цяжка хварэў, але выжыў. Дзяцінства яго і юнацтва прыпалі на той час, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад буржуазнай Польшчы. Атрымаць адукацыю юнаку з беднай сям'і было няпроста. З-за недахопу сродкаў вучоба часта перапынялася. Вучыўся ў Крэве, затым — два гады ў настаўніцкай семінарыі ў Барунах. У 1933 г. польскія ўлады яе закрылі. З дапамогай свайго дзядзькі ксяндза Фр. Чарняўскага паступіў у гімназію ў мястэчку Друя, якая была заснавана пры мясцовым Марыянскім кляштары. Гэты кляштар быў беларускім не толькі ў геаграфічным сэнсе, але і па сваёй ідэйнай накіраванасці.

Пасля разгону друйскіх Марыянаў польскімі ўладамі Уладзіслаў Іванавіч накіроўваецца ў Вільню для паступлення ў духоўную семінарыю. Менавіта там ён і быў пасвечаны ў святары. У час свайго знаходжання ў Вільні ксёндз і набыў у букіністычных магазінах большасць з тых кніг, з якіх у далейшым склалася каштоўная бібліятэка. Частку сваёй калекцыі ксёндз у 60-я гады перадаў у наш музей. Гэта — навуковыя выданні беларускіх вучоных: А.П.Сапунова, Я.Ф.Карскага, В.Ю.Дастоўскага. Уладзіслаў Іванавіч перадаў у музей і вялікую колькасць кніг польскіх даследчыкаў, надрукаваных у Познані, Кракаве, Варшаве, Львове, Лейпцыгу. Сярод іх рэдкія, такія, як кніга Генрыха Мерчынга "Сымон Будны як крытык біблейскіх тэкстаў" (Кракаў, 1913), "Гісторыя славяншчыны" В.Багуслаўскага (Познань, 1887), Яна Птасьніка (Львоў, 1922) і інш. Перадаў мастацкія творы — першыя пецярбургскія зборнікі Я.Купалы, маленькі зборнічак "Вязанка" Янкі Лучыны (Пецярбург, 1903). Атрымалі мы ад Уладзіслава Іванавіча і віленскія выданні 20—30-х гадоў.

На парафіі ў Вішневе ксёндз з 1953 года.

Дарэчы, гэтая вёска знакамітая. Тут апошнія гады свайго жыцця правёў асветнік і гуманіст Сымон Будны, у XVII-XIX стагоддзях працаваў чыгуналіцейны завод князёў Храптовічаў — вішнеўскае ліццё славілася, была вялікая сыраварня.

Мясцовая славутасць — касцёл Мары, пабудаваны ў XVII ст. з цудоўным разным алтаром. Прыехаў Уладзіслаў Іванавіч сюды па просьбе вернікаў з Беларусі. Гэта патрыёт Беларусі, які пры розных уладах адстойваў права беларускага народа гаварыць з Усявышнім на роднай мове.

У 1967 г. Чарняўскі быў запрошаны ў Рым, дзе папа Павел VI хацеў яго назначыць адміністратарам і біскупам на Беларусь, але, як пісаў ксёндз у сваіх успамінах: "...чужыя рукі не дапусцілі". Там жа яму было даручана кангрэгацыяй Божага Культа перакласці на беларускую мову літургічныя тэксты, імшал, інш. З такой задачай ён справіўся паспяхова. Пяць тамоў літургічных тэкстаў — імшал, рытуал праз Літву ён перадаў у Рым, дзе цяперашнім папам Янам Паўлам ІІ яны былі апрабаваны. Экземпляр Рымскага імшала з уласнаручнай праўкай ксёндз падараваў нашаму музею. Мова яго жывая, вобразная і чыста беларуская.

Наогул, уражвае зробленае гэтым чалавекам. Ён пераклаў поўнасцю Свяшчэннае пісанне, падрыхтаваў да друку беларускі малітоўнік з малітвамі і песнямі, а таксама каля 80 кароткіх жыццяў святых. Працаваў над гэтым каля 30 гадоў. Уладзіслава Іванавіча можна назваць мясцовым фалькларыстам — ён сабраў і запісаў вялікую колькасць беларускіх песень, якія спявалі ў розныя часы ў Вішневе. Усё гэта ксёндз перадаў Каталіцкай Грамадзе ў Мінск. Спадзяецца, што надрукуюць.

Пра простага вясковага святара Уладзіслава Іванавіча Чарняўскага можна расказваць доўга. І ўсё будзе вельмі цікава, бо ён з тых падзвіжнікаў, чыя дзейнасць азорвае шлях новым пакаленням.

*Алена ГАСЬКОВА,*
*старшы навуковы супрацоўнік аддзела навукова–даследчай і экспазіцыйнай работы.*

■ Быль з усмешкай

## ЦЫГАРЭТНЫ ДОЎГ

Было гэта некалькі гадоў таму. На работу ў нашу кантору ў якасці загадчыка сектара быў прызначаны новы інжынер. Звалі яго Васіль, а прозвішча Бізуноў. Калі дырэктар канторы прадстаўляў яго калектыву, то выпадкова аказалася, што ён сядзеў побач са мною. Я па-суседску павіншаваў яго з новым прызначэннем, моцна паціснуўшы руку. Так мы пазнаёміліся.

Аднойчы ў час чарговага перакуру на невялікай лесвічнай пляцоўцы Вася, як даўно знаёмы, падышоў да мяне і неяк крыху сарамліва звярнуўся:"Дай закурыць. Не паспеў сёння купіць". Я дастаў з кішэні ўжо распачатую пачку "Беламору". Ён узяў адну цыгарэту, прыкурыў ад маёй і моцна зацягнуўся. Па ўсяму відаць было, што курыльшчык ён заўзяты.

На другі дзень паўтарылася тое ж самае. Праўда, просьба яго была ўжо не такой сарамлівай. З цягам часу ў Васіля гэта стала звычкай. Як перакур — адкуль ні вазьміся тут як тут Вася. Надакучыла мне гэта папрашайніцтва. Паспрабаваў я некалькі разоў адмовіць у цыгарэце, спаслаўшыся, што ў самога, маўляў, апошнія. Аднак гэта яго не засмуціла. Перабіўся ён на гэты раз у кагосьці другога, а потым зноў да мяне.

Думаў я думаў, як адвучыць яго ад такой звычкі, і аднойчы прыйшла ў маю галаву ідэя. У адзін з дзён падышоў я да Васі і кажу яму: "Слухай, Вася, дай у доўг чырвонец. Жонка наказала купіць каўбасы, а ў мяне не хапае грошай. З авансу аддам". "Глядзі, толькі не пазней, бо мне самому спатрэбяцца грошы", — сур"ёзна паглядзеўшы на мяне, сказаў ён.

Праз некалькі дзён я зайшоў у мясцовую краму, купіў на ўсе яго грошы цыгарэт, палажыў іх у цэлафанавы мяшочак і на наступны дзень узяў з сабой на работу. У дзень авансу Вася сустрэў мяне яшчэ каля дзвярэй і адразу:"Ты не забыўся пра доўг?" "Ды не, — кажу, — зараз прынясу". Праз некалькі хвілін я ўзяў у сваім стале мяшочак з пачкамі цыгарэт — і да Васі:"Вось, вяртаю табе доўг". У яго аж рот раскрыўся і вочы — навыкат. "Дык гэта ж не грошы, а цыгарэты" — неяк здзіўлена выпаліў Вася. "Цыгарэты таксама грошы каштуюць, — адказваю я. — Бяры, няхай будуць яны і ў цябе". Бачу, зразумеў ён, у чым справа, моўчкі ўзяў мяшочак, павярнуўся і пайшоў да свайго стала. З таго часу Вася больш ніколі не толькі ў мяне, але ў нікога іншага не прасіў закурыць.

*Мікалай ЯФІМЧЫК.*

## ХАТНІ ЭКРАН

### 21 ліпеня, чацвер

*Беларускае тэлебачанне*

17.30. Навіны.
17.40. Існасць.
18.10. Абласныя навіны.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.05. Крымінальная хроніка.
19.25. "Гэтыя даўгавечныя сосны..."
20.10. "А дзе мне ўзяць такую песню...". Д/ф.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Надвор'е.
22.00. НІКа.
22.15. "Славянскі базар-94".
23.45. "Жанчына без забабонаў". 2-я серыя.

*Канал "Астанкіна"*

17.25. Дакументы і лёсы.
17.40. Загадка СБ.
17.50, 20.30. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Прыватнае жыццё Аляксандра Шырвінта.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква—Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. "Прама ў сэрца".
23.40. Спявае Алена Казанцава.
0.10. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Сам сабе рэжысёр.
21.00. Яўгеній Лявонаў. Вечар памяці артыста.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Пан Валадыеўскі". 1-я серыя.

### 22 ліпеня, пятніца

*Беларускае тэлебачанне*

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. "Карамболь". Ток-шоу з удзелам спевака М.Шуфуцінскага.
9.10. Пяць хвілін на жарты.
9.15. Першы Міжнародны фестываль фальклору.
10.15. Да Дня Незалежнасці.
16.20. ПІК. Канал для падлеткаў.
17.00. "І матчыных напеваў успамін".
17.30. Навіны.
17.45. Студыя "Тэлесябрына".
18.00. Эканамікст.
18.10. Абласныя навіны.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Сустрэча з прадстаўнікамі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці.
19.30. "Памяць сэрца".
20.05. Рэйтынг.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. "Свабоднае падзенне".
23.00. Пад купалам Сусвету.
23.10. Надвор'е.
23.20. "Славянскі базар-94".

*Канал "Астанкіна"*

8.15. "Сарока". Дзіцячая інфармацыйная праграма.
8.45. "Гарачаў і іншыя".
9.15. Дапамажы сабе сам.
9.45. Бізнес-клас.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.25. "Прыгоды Бураціна". 1-я серыя.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Мініяцюра.
17.35. Знак пытання!
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. Чалавек і закон.
18.20. "Гарачаў і іншыя".
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Чалавек тыдня.
21.05. "Дэн Огаст".
22.10. "Погляд" з А.Любімавым.
23.10. Музагляд.
23.55. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. Тэлегазета.
8.35. Паехалі.
8.45. "Санта-Барбара".
9.35. "Капітан Нема". 3-я серыя.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. "Адна супраць усіх". 1-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Фільм-прэм'ер.
18.10. Міжнародны конкурс вакалістаў імя М.А.Рымскага-Корсакава.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Дзённік фестывалю "Славянскі базар-94".
20.30. "Гарадок". Забаўляльная праграма.
21.05. "К-2" прадстаўляе: "Пацалунак у дыяфрагму".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Пан Валадыеўскі". 2-я серыя.
24.00. Прыватная калекцыя.

### 8-й канал

**21 июля, четверг**

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.20 Тележурнал "Немецкая волна".
18.50 Мультсериал "Вольтрон".
19.10 Телесериал "Лабиринт правосудия".
20.00 Студия "Рекорд" представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея.
20.30 Телесериал "Морена Клара", 45-я серия.
21.35 Студия "Рекорд" представляет художественный фильм.

**22 июля, пятница**

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.25 СОЛТЭК. Доремифасольки.
18.35 Мультсериал "Вольтрон".
19.00 Художественный фильм из серии "Отец Мерфи".
19.50 Студия "Рекорд" представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея.
20.20 Телесериал "Морена Клара", 46-я серия.
21.10 Писатели-юмористы.
21.20 Foxy music (повтор).
22.05 Студия "Рекорд" представляет художественный фильм.

# Мой любимый фюрер...

### Так начинались многие письма, адресованные Адольфу Гитлеру




Коллаж Виктора СИНЬКОВСКОГО.

...1946 ГОД, БЕРЛИН. Осторожно ступая по ступенькам разрушенной рейхсканцелярии, на первый этаж поднимается молодой человек. Под локтем у него обычная канцелярская папка. Стены комнат хранят следы пуль и осколков. В одной из них свалены грудой аккуратно перевязанные бывшими чиновниками рейхсканцелярии стопки писем. Как правило, начинаются они все одинаково: «Мой любимый фюрер...»

Человека зовут Вилли Эмкер. Сюда, в Берлин, его прислали в качестве сотрудника американской секретной службы ОСС (Управление стратегических исследований). Но письма Эмкер собирает отнюдь не по заданию американского командования. Впоследствии, вернувшись в Лос-Анджелес, он запрячет их в своей кладовой и не будет прикасаться к ним тридцать с лишним лет.

Спустя три десятилетия Вилли вернется в Германию, в родной город Франкфурт. Познакомится с тамошним депутатом Хельмутом Ульсхофером, представителем партии «зеленых». Расскажет о письмах. Тот убедит его привезти их в Германию и опубликовать в газете «Зюддойче цайтунг». И только перечитав эти письма, Вилли поймет, зачем собирал их с риском для собственной карьеры и хранил столько лет.

Принадлежа безвозвратно ушедшему, казалось бы, прошлому, они адресованы были в сегодняшний день.

### *Жизнь под свастикой*

Уже при первом чтении тогда, в сорок шестом, он обнаружил неожиданно одно из писем, которое парадоксальным образом предопределило судьбу самого Вилли Эмкера. В нем упоминалось имя женщины, на которой он впоследствии женился. Это был донос на человека, за которым Ирена короткое время была замужем. Его прежняя подружка, обозленная тем, что солдат вермахта предпочел ей другую, сообщала фюреру о непозволительных высказываниях в его адрес. Солдата быстренько забрали в «команду смертников» и послали на Восточный фронт, откуда он уже не вернулся...

Упав однажды на людей, тень свастики безжалостно давила их души и судьбы. Сам Вилли из-под нее ускользнул только чудом. К тому моменту, когда нацисты взяли власть, он оказался безработным. Очереди и биржи труда, царившая кругом нужда и безысходность, истошные крики штурмовиков на улицах—все это наполняло душу страхом. Но у него, сына ремесленника, хватило здравого рассудка не поддаться всеобщей истерике. Друзья-коммунисты уговорили Вилли примкнуть к Сопротивлению, чтобы вместе бороться с нацизмом.

Но соотечественники Вилли, писавшие «любимому фюреру», мечтали уже о другом.

### *Мечты под свастикой*

Вернер, восемнадцатилетний паренек из Кобурга, прислал Адольфу Гитлеру гравюру с изображением свастики и попросил вернуть ее обратно — с автографом любимого фюрера. **«Фюрер получил твой замечательный рисунок,**— сообщалось в ответе, направленном Вернеру.— **К сожалению, выполнить просьбу об автографе ему не представилось возможным»**. Правда, юный художник внакладе все равно не остался: для развития таланта в нужном направлении он получил стипендию, дающую возможность учиться в Берлинской академии художеств...

В одной из групп Сопротивления также был юный художник Вальтер Манн, посвятивший свое творчество фюреру. Однако рисовал он исключительно карикатуры, появлявшиеся затем на листовках. Вилли Эмкер с товарищами расклеивали их по Берлину. Группу скоро накрыли — по доносу соседки, обиженной тем, что несколько симпатичных парней, которых она ежедневно встречает на лестнице, не обращают на нее никакого внимания.

Соседка, заподозрившая их в гомосексуализме, сообщила в гестапо. Вилли и его друзей отправили в лагерь, на торфоразработки. Родители от него отказались. Они верили фюреру больше, чем сыну.

...Впрочем, как убедился Вилли, читая письма, голос крови у немцев, случалось, порой вырывался даже из-под свастики. Например, Иоганн из Дуйсбурга просит фюрера пощадить его неразумного брата, рассказавшего «пару глупых анекдотов». Ответа на письмо он не дождался. Брата из концлагеря — тоже.

Судьба к Вилли Эмкеру отнеслась благосклоннее. В 1935 году ему удалось освободиться из лагеря и перебраться во Францию. Затем он воевал с фашистами в Испании, был снова интернирован во Францию, потом попал в Марокко, строил Трансарабскую магистраль, и в конце концов связался с американскими спецслужбами, чтобы продолжать борьбу в рядах союзников.

В сорок пятом году Вилли был направлен в освобожденный Берлин для «работы среди гражданского населения». Больше всего он надеялся встретить в городе хоть кого-то из своих многочисленных приятелей-евреев, с которыми некогда любил музицировать. «Ни с кем иным, кроме них, да еще моих товарищей по лагерю, я в ту пору не мог говорить...»

Евреев в городе он не нашел. Нашел письма, авторы которых признавались не только в безграничной любви к фюреру, но и в желании... иметь от него детей.

### *Любовь под свастикой*

Подобных признаний в собрании Вилли немало. Нордически твердых: «Ты ищешь женщину, а я ищу мужчину». Жеманно-откровенных: «охотно заимела бы от вас ребенка», или «ты чувствуешь, как я тебя люблю». Официально-торжественных: «многоуважаемый господин рейхсканцлер, не могли бы вы прислать мне подписанный вами контракт?» (к письму прилагался т. н. брачный контракт).

Читая эти признания, Вилли Эмкер представлял себе всегда одно и то же: как чиновники за столами рейхсканцелярии аккуратно вскрывают конверты, проглядывают письма и... аккуратно пересылают в гестапо. С сопроводительной пометкой, подобной той, что сделал некий служащий рейхсканцелярии Эрих на одном из писем. 17 октября 1942 года: **«Направляю вам бредовые писания Анны В. с настоятельной просьбой положить конец безобразиям с ее стороны»**. «Конец» был положен: уже 13 ноября Анну заключили в сумасшедший дом, откуда выход один — на кладбище.

Подобная участь ждала и жительницу Ольденбурга Ханну, имевшую смелость написать Гитлеру: **«Благодарна тебе за каждый прожитый мной день, за каждый час... Никого из мужчин я еще не любила так сильно, как тебя, мой рейхсканцлер»**. Ханну отвезли в психолечебницу, но ей посчастливилось остаться в живых.

◇

«Знаете, почему после войны я не вернулся из Америки в Германию?—медленно, подбирая точные слова, говорит Вилли Эмкер.— Потому, что боялся: те же чиновники, которые пересылали такие вот письма в гестапо, выждут время и снова рассядутся по тем же местам. Так оно и случилось».

Но наибольшее потрясение Вилли, посетившего снова Германию, было вызвано все же другим. Однофамилица одной из женщин, писавших письма Гитлеру, призналась: **«Нет, это была не я... Но если бы и написала — сейчас я бы этим гордилась»**.

Подготовил
**Виктор ШУТКЕВИЧ.**

"Комсомольская правда".

■ Сярод кніг

## ЗАГАДАНАЧКІ

Адметнай з"явай беларускай паэзіі апошніх дзесяцігоддзяў стала тое, што ў яе "гарачы цэх" усё часцей прыходзяць не толькі філолагі, але і прадстаўнікі іншых прафесій — будаўнікі, матэматыкі, мастакі, інжынеры, культработнікі і інш. Член Саюза пісьменнікаў рэспублікі Уладзімір Мацвеенка /прыняты ў 1992 г./, напрыклад, медык. Закончыў медыцынскае вучылішча, доўгі час працаваў тэхнікам-артадонтам Мінскай абласной паліклінікі. Але гэта не перашкаджала яму вольны час аддаваць літаратурнаму занятку. Свае першыя вершы Уладзімір Іванавіч надрукаваў на старонках "Мінскай праўды".

Цяпер ён аўтар зборнікаў "Цвіце верас", "Заранка", "Лекі без аптэкі", "Асцюкі за каўняром" і іншых. А зусім нядаўна ўбачыла свет новая кніга паэта-медыка "Загаданачка". Яе галоўная тэма — у самой назве. Жанр ён выбраў нялёгкі. Але з пастаўленай задачай, лічу, справіўся. Загадкі-рыфмаванкі, загадкі-задачкі, загадкі-жарты дапамагаюць маленькім чытачам эмацыянальна, вобразна пазнаваць свет ва ўсіх яго фарбах, выклікаюць любоў да роднага слова, абуджаюць творчае ўяўленне і развіваюць здольнасці.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Спорт

## ГУЛЬНІ ДОБРАЙ ВОЛІ

Трэці раз будуць праводзіцца Гульні добрай волі. На гэты раз удзельнікаў сусветнага спартыўнага свята прымае Санкт-Пецярбург.

Горад на Няве прыме каля 3,5 тысячы пасланцоў са 170 краін свету. З 23 ліпеня па 7 жніўня яны будуць аспрэчваць першынство па 24-х відах спорту.

Абслугоўваць Гульні добрай волі будуць тысяча арбітраў з Расіі і каля 370 замежных суддзяў.

Самыя прадстаўнічыя —дэлегацыі Расіі, ЗША, Германіі і Кітая. Выступяць на гэтым спартыўным форуме і беларускія атлеты. Яны прадстаўлены ў лёгкай і цяжкай атлетыцы, спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, веславанні і іншых відах спорту.

## З АДНОЛЬКАВЫМ ВЫНІКАМ

У бліжэйшыя нядзелю і панядзелак на чэмпіянаце Беларусі па футболу ў першай лізе адбудуцца матчы трэцяга тура.

А другі тур закончыўся сустрэчамі тарпедаўцаў Мінска з "Гомсельмашам" і віцебскага КІМа з лідскім "Абутнікам". У абодвух паядынках перамаглі гаспадары поля з аднолькавым вынікам — 1:0.

## ПА ПРАГРАМЕ КОМПЛЕКСУ «ЗДАРОЎЕ»

Спаборніцтвы па комплексу мнагабор"я "Здароўе" праведзены на спартыўных базах сталіцы Беларусі. Аспрэчваўся адкрыты Кубак рэспублікі, вынікі ўваходзілі ў залік Кубка свету па паліятлону.

У камандным заліку перамагла першая зборная Расіі, апярэдзіўшы гаспадароў на 76 ачкоў.

Лепшую суму балаў сярод мужчын набраў Леанід Гісаў з Бабруйска — 251 ачко. Мінчанін Валянцін Сухоцкі ўступіў яму 9 ачкоў. З беларускіх жанчын лепш выступіла Святлана Балуненка — 226 ачкоў.

## СА ЗНАЧНАЙ ПЕРАВАГАЙ

Закончыўся чэмпіянат Беларусі па хакею на траве сярод мужчынскіх каманд. Званне чэмпіёна са значнай перавагай заваявала мінская каманда РШВСМ. У шаснаццаці матчах яна атрымала 15 перамог і толькі адзін закончыла ўнічыю. Набраўшы 31 ачко, мінчане на сем ачкоў абышлі брэсцкі «Будаўнік».

Сярод бамбардзіраў вызначыўся Уладзімір Кашкар з РШВСМ. На яго рахунку 23 забітыя мячы.

## ЧЭМПІЁН ЗАДАЕ ТОН

Дзевяць тураў праведзена ў чэмпіянаце вобласці па футболу. Пераможца мінулагодняга першынства каманда «Белыя росы» з Першай мінскай птушкафабрыкі задае тон. У трох ліпеньскіх турах яна згуляла ўнічыю — 3:3 з валожынскай «Іслаччу», перамагла мар"інагорскі «Бетпласт» — 3:2 і «Верас» з калгаса «17 верасня» Нясвіжскага раёна — 5:2. Дарэчы, «Верас» добра пачаў чэмпіянат і знаходзіцца сярод лідэраў. У сёмым і восьмым турах калгасныя футбалісты перамаглі каманду «Стара-Барысаў» — 4:1 і «Маналіт» з пасёлка Фаніпаль Дзяржынскага раёна — 3:1.

У групе лідэраў і смалявіцкі «Крышталь». У апошніх трох турах ён набраў пяць ачкоў, згуляўшы ўнічыю са старобінскім «Аўтамабілістам» — 2:2 і атрымаўшы перамогі над уздзенскім «Нёманам» — 2:0 і валожынскай «Іслаччу» — 2:1.

*(Наш кар.)*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага, 10-А, паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна-эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацый —68-25-03, 68-26-48, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61, Вілейцы —(8-271)5-57-86, Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Намеснік галоўнага рэдактара М.В.КАРОЛЬ.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды". Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Тыраж 16600. Індэкс 63923. Зак.№76.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12